Студзень 2004 г.

# КРЫЛЫ

№3(2-1)

выданне моладзі Лунінецкага раёна



## Прынцэсы на белым кані.

Кажуць, што у нашы дні не засталося ніводнага сапраўднага "прынца" – усе хлопцы не паважаюць дзяўчат, пьюць, паляць/ і г.д. Так здаецца нашым дзяўчынкам. Але ж узнікае пытанне: ці нашы прыгажуні лепшыя за сучасных хлапчукоў.

Зараз можна ўбычыць такую з'яву, якая нам [хлопцам] не вельмі падабаецца. Нашыя дзяўчаты ўжо прыкладна з 14 гадоў пачынаюць атручваць свой малады арганізм тытунём, алкаголем. Яны не задумваюцца аб тым, што чакае іх у будучыні, што ў іх яшчэ будуць дзеці і што ўсё гэта скажацца на іх здароўі. Пасля такой "прафілактыкі" дзеці нараджаюцца ці інвалідамі ці разумова адсталымі альбо не нараджаюцца ўвогуле. Вы зараз скажаце: "А чаму вам [хлопцам] можна а нам не?" Гэта, канешне, так, АЛЕ: мужчыне дастаткова месяц-другі пазаймацца спортам, кінуць шкодныя звычкі і ён здольны даць добрыя гены для свайго дзіцяці. Дзяўчыне прыйдзецца выпраўляць здароўе ці не ўсё жыццё. Накопленыя таксіны вельмі павольна выдаляюцца з палавой сістэмы жанчыны.

Хлопцы, канешне, таксама не падарунак. Але ж гэта хлопцы. А дзяўчынкі павінны быць прыкладам для нас, хлопцаў. Магчыма, пaглядзеўшы на вас, такіх прыгожых і мы зменімся. Хочацца сказаць вам, паважаныя дзяўчынкі, каб вы кідалі гэтыя справы і браліся за розум. Таксама хацелася б параіць вам: у 14-цігадовым узросце не прыходзьце дадому з дыскатэкі ў 4 гадзіны раніцы. Падумайце пра вашых бацькоў!

**Браток і К°**

Увага!

Абвяшчаецца конкурс на лепшы (самы цікавы, самы прыкольны, самы-самы) фотаздымак. Абавязуемся іх вярнуць пасля сканавання. Некаторыя са здымкаў будуць размешчаны ў наступным нумары выдання. Пераможцы атрымаюць прызы. Падзяліся цікавым імгненнем са сваімі сябрамі і ўсімі чытачамі «Крылаў»!

Віталік.

Шаноўны дружа!

На працягу лютага ў Лунінецкім раёне адбудзецца інтэлектуальнае спаборніцтва - Брэйн-Рынг. Калі ты жадаеш прыняць удзел альбо проста падтрымаць сваю каманду - будзь на сувязі! Плануецца ўдзел каманд са школ К-Гарадка, Лахвы, Мікашэвічаў, Лунінца. Адказны за правядзенне спаборніцтваў Янка Каратыш (232-70 даеля $19^{00}$).

*Думай ясней!*
*Рухайся хутчэй!*
*Не спі - будзь разам з намі!*

Паважаны сябра!

Ты трымаеш у руках трэці нумар нашага выдання; спадзяемся, на яго старонках ты знойдзеш шмат цікавага для сябе.

Мінулі навагоднія святы, Каляды і не за гарамі 14 лютага - Дзень закаханых. Няхай ў гэты дзень табе прыйдзе цэлы мех валянцінак. Не забудзь і ты павіншаваць сваю палавінку. Далей ідзе 23 лютага, 8 сакавіка і г.д. Ну проста няма калі вучыцца! Гэта ж трэба кожнае свята адзначыць, павіншаваць усіх сяброў... А калі сяброў у цябе мала - далучайся да нас.

Мы (каманда моладзі, што выдае гэты бюлетэнь) заўсёды рады бачыць новых сяброў ды новыя ідэі сярод нас. Таму бяры аркуш паперы, аловак (ці ручку) і пішы. Пішы ўсё тое, аб чым хочацца расказаць усім, аб тым, што набалела на сэрцы ці проста цікавыя думкі. Дасылай усё гэта (адрас гл. на апошняй старонцы) нам, а яшчэ лепш – прынось. Абяцаем не пакінуць без увагі ніводзін ліст.

Нагадаем: працягваецца збор нашых палескіх словаў ды выразаў. Гэта вельмі важна, таму што праз некалькі пакаленняў можа знікнуць цэлы пласт нашай культуры, а мы проста будзем глядзець і не рабіць нічога.

І яшчэ! Калі ёсць ідэі як цікава правесці лета, таксама звяртайся. Можа ты ведаеш, куды цікава схадзіць у вандроўку ці дзе можна адкапаць скарб?

Віталь Каратыш
і ўсе астатнія.



# Творчасць...



*Спасибо за то, что ты есть, за то, что тобою живу.*
*Что слышу свой голос родной, что это не сон — наяву.*
*Спасибо за то, что ты есть, Целую тебя и молчу...*
*Пусть сердце подскажет решение. Слезою за грех заплачу...*

*Невядомая дзяўчынка*

### Апора

Калі ў жыцці здараецца няшчасце,
Калі ўсё ідзе наадварот,
Калі забыўся ты, што значыць шчасце,
Калі турбот тваіх аж поўны рот
Калі цябе абвінавацілі ў злачынстве,
Калі даверу ты не спазнаеш,
Калі не ведаеш, чаго табе рабіць,
І невядома ад чаго пачнеш —
Пачні з матулі, што цябе не кіне,
Яна твая апора ў жыцці,
Яна цябе заўсёды зразумее,
Паможа злыя вочы адвясці.
Тады цябе ўбачаць усе людзі,
Паверaць у тваю шчырасць і спакой
Ты "дзякуй" маці не забудзь сказаці
І абдымі яе сваёй рукой...

*Shura*
*15 кастрычніка 2003 г.*

### Любовь.

Любовь к себе любого преклоняет,
Она - как пух, мягка и так нежна,
Влюблённым путь повсюду озаряет
Но в жизни она может быть одна.

Коль любишь ты, тебе никто уж не прикажет,
Любовью наполняешь смысла жизнь,
Дорогу тебе сердце верную подскажет,
Куда надо идти, как верить, как любить.

Но если человек любимый вдруг обманет,
Не умирай внутри и смерти не ищи,
Спроси у Бога, Он - всегда тебе подскажет,
Не осуждай того, прости и отпусти.

Жить в одиночестве, конечно, не подарок,
Бери от жизни всё, старайся всё найти,
Сгорела уж свеча, остался лишь огарок,
Огарок той любви, что не сумел найти.

*Shura*
*15 кастрычніка 2003 г.*



### Ганчар.

Рамеснік! Ён хацеў быць мастаком...
Ён гліну мяў, ён мог не спаць начамі.
Ён не вылазіў з нізенькай ганчарні,
хоць толькі хлеб мачаў у глечык з малаком...

Вятры змяталі лісце з бальшака,
Бярозак моклі голыя каленкі.
Ад прахалоды ўздрыгвала рака
І кліч гусей сціхаў у небе.

А ў Лунінцы крычаў кірмаш,
Тэатр пачвар скакаў па сцэне.
Халодным золатам блішчэў пластмасы рад...
Вакол натоўп збіраўся, ахаў...

Крыху ўбаку стаяў ганчар
З радком збанкоў гліняных.
У кожным з іх была душа —
Ніхто не зважыў на старога.

А ён пасля раструшчыў усе гаршкі,
Згубіўшы рэшткі моцы, волі...
Рамеснік! Ён хацеў быць мастаком,
Ды час прыйшоў ужо новы...

*Янка Каратыш*

***

Ён з жоўтых дрэў зрываў сухое лісце-
Удалеч гнаў і за сабой гукаў.
Па вуліцы бег... І не знаходзіў выйсця -
Пад коламі машынаў аціхаў.
І паміраў, такі самотна-дужы...
Я на хвіліну запаволіў крок,
Здзіўлёны тым, як зыбаліся лужы
Мільёным хваль, драбнюткіх, як пясок.

*Анатоль Дэбіш.*

***

Мой родны край — такі прыгожы;
Рэкі, лугі, палі, лясы...
Васількі ў жыце на прыдарожжы
І лілії на беразе ракі
І бяскрайнія сінія нябёсы
Ў блакіце прыпяцкіх лясоў.
Белы бусел і чыстыя росы
Няскошаных заліўных лугоў.
Прыгожасць лесу — колер зялёны
І статую магутнасць дубоў...
На зямлі роднай маёй свабоды,
Дзе пануе шчырасць і любоў...

*Невядомая дзяўчынка*





# Выбар: горад ці вёска?

Кожнаму з нас часта прыходзіцца рабіць выбар. Мы выбіраем куды паступаць вучыцца, з кім сустракацца, па якім баку вуліцы ісці і, урэшце, выбіраем прэзідэнта і парламент. Аднойчы паўстане пытанне: "Дзе жыць?". Калі выключыць прамежкавыя варыянты (гарадскія пасёлкі, прыгарад і г.д.), то пытанне пераходзіць у выбар "Горад ці вёска?"
З пытаннем "Дзе б вы хацелі жыць у будучым і чаму?"мы падыйшлі да розных маладых людзей з весак і гарадоў.
Вось некаторыя адказы:

*Я б жыў у горадзе, але хацеў бы мець дачу ў вёсцы. У горадзе працей ЖЫЦЬ Але там таксама дрэнна.. Хутка надакучвае: машыны ды ўсякае такое...*

Калюціч Саша, жыве ў вёсцы



*Я б хацела жыць у горадзе, бо я нарадзілася і жыла там. Я гарадская дзяўчынка. Вёску бачыла толькі ўлетку. Ведаю, што там прыходзіца цяжка працаваць. Я па характару кар'ерыстка, а ў вёсцы проста нерэальна зрабіць сабе кар'еру. Выбар спыняецца толькі між вялікім ці малым горадам.*

Талапіла Алёна, г. Ліда

*Я буду жыць у вёсцы. Бо прывык жыць тут. А што ў горадзе: ні рэчкі няма, нічога... ды і кватэра маленькая...*

Заісь, хыве ў вёсцы Дрэбск.

*Было б шмат "бабак", то можна было б жыць у горадзе... А так...*

Хлопец, што пажадаў застацца невядомым, жыве ў вёсцы

Канешне, тут справа кожнага – выбар за табой. Але чамусці з кім бы я не заводзіў размову, амаль кожны з тых , хто жыве ў вёсцы застаўся тут толькі таму, што не можа знайсці добрую працу ў горадзе. Шмат хто з маіх знаёмых з"ехаў са сваіх родных мясцін і, маючы добрую адукацыю, працуе грузчыкам ці дворнікам ў Мінску ці Брэсце. Чаму так?
Фактычна ўзровень жыцця ў горадзе нашмат вышэйшы. Сфера абслугоўвання тут добра развіта:



процьма розных бараў, дыскатэк, кавярняў...
Прычым большасць з іх ва ўладанні прыватных прадпрымальнікаў. Так кажны стараецца прыцягнуць пакупніка лепшым сервісам, абслугоўваннем, якасцю тавара. Памятаю, мяне здзівіла, што калі я зайшоў у мінскі Макдональдс мне ўсміхнуліся, ветліва запыталіся, што патрэбна...
У вёсцы сітуацыя іншая. І наўрад ці прадаўцы дзярж. крамаў у гэтым вінаваты. Тутор сістэма іншая. Добра, калі ў вёсцы ёсць хаця б адзін шапік!
Цяпер на сяле застаецца зусім мала моладзі. Каб выжыць тут - трэба працаваць. Часта амаль задарма. Застаюцца адзінкі, альбо тыя, хто не можа з"ехаць
Будзем спадзявацца, што некалі нашыя дзеці будуць імкнуцца ў вёскі з гарадоў,
а не наадварот.



ДЗЕД

---

### З'ехаць ці застацца?

*Пакутаваць... але да якога часу?*
*Пакутаваць... але дзеля якой будучыні?*
*Пакутаваць... але бяздзейнічаць?*

*З'ехаць... але куды?*
*З'ехаць... але калі?*
*З'ехаць... але да чаго?*

*Пакуты... без крыжа!*
*Пакуты... без радасці!*
*Пакуты... без славы!*

*Дзейнічаць... нарэшце.*
*Дзейнічаць... усім разам.*
*Дзейнічаць... дзеля дзяцей.*

**Жыль Ле Кардыналь**

---

Палессе... Прыгожыя рэкі... Вялікія лясы... Гэта наш край. Мы тут нарадзіліся і будзем жыць тут...

*Дзіма*



# Гумар на апошняй старонцы...

***

Муж вяртаецца з працы раней часу і застае жонку з незнаёмым чалавекам.
- Пазнаёмцеся, - кажа жонка. - Гэта мой муж, а гэта Віця. Ну, пакуль вы знаёміцеся, пайду выклічу хуткую дапамогу.

***

Шцірліц вельмі акуратна патушыў акурак аб урну. Але назіральнікі ўбачылі і вывялі яго з выбарчага ўчастка.



***

Ідзе экзамен. Студэнт выходзіць адказваць з маленькай паперкай, на якой напісаны два маленькія сказы. Настаўнік:
- А дзе ж ваш адказ?
- У галаве.
- А гэта што? - ківае на паперку.
- А гэта не ўлезла.

***

Кэт строила Штирлицу глазки. Штирлиц с трудом их опять сдвоил.

## Японскі красвордзік

ад Масяні і сяброў.

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | | | 2 | 1 | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | 7 | 7 | | | | | | | | |
| | | | | | 5 | | | | | | | | 4 | 3 | 1 | 5 | 4 | | | | | |
| | | | | 2 | 1 | 9 | 11 | 12 | 12 | 13 | 13 | 14 | 1 | 1 | 6 | 2 | 2 | 1 | | | | |
| | | | 3 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 2 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 2 | 3 | 3 | 2 | 1 |
| | | 3 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | 1 | 7 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 1 | 2 | 3 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | 9 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | 9 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | 9 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | 9 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | 11 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | 12 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | 9 | 1 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | 8 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | 9 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | 10 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | 10 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | 9 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | 9 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | 2 | 8 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | 1 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | 10 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | 6 | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

***

Лучший способ успокоить девушку, когда она в истерике, - объясняет психиатр студентам, - это поцеловать ее.
- Скажите, профессор, а как проще всего довести ее до истерики?





***

- Алло, здравствуйте, у вас доллары есть в продаже?
- Да, пожалуйста.
- А по какому курсу?
- По шесть рублей.
- ??? Извините, это банк?
- Нет, это ТИПОГРАФИЯ!

***

- Подсудимый, ваши три последних желания.
- Любые?
- Да!
Подсудимый:
- Пулемет, патроны, и держитесь, гады!



## Хвілінка школьнага жыцця...

*Акуратненька кінем гэты вектар на плоскасць XY.
*Бабачкі, куры ды іншыя травоядныя...
*Батарэйка мае адмоўны зарад.
*Кіньце ўсю ўвагу на мяне.
*У дваццаць шостым годзе, як зараз памятаю...
*У выніку павінен атрымацца вынік!
*У сям"і воўка нараджаецца ад дзесяці да дванаццаці чалавек.
*У сярэднім з павелічэннем весу і рост павялічваецца наадварот.
*Вектары - гэта такія тройкі лікаў, якія вядуць сябе як вектары.
*Вектар - гэта накіраваны адрэзак са стрэлачкай.
*Вялікая Айчынная вайна - гэта вам не чарапашкі-ніндзя!
*Дакладна ўсё! Усё правільна! Але гэта заслужаная двойка...
*Уключыце, калі ласка, хвіліну маўчання!
*Вазьміце галаву ў рукі і рашайце!
*Вось вы сядзіце і адсутнічаеце.
*Вось ён усім перпендыкулярам перпендыкуляр!
*Усё як заўсёды: хлопчыкі гавораць аб дзяўчынках, а дзяўчынкі - аб трапках.

Выданне бюлетэня з"яўляецца адным з накірункаў дзейнасці КІІ «Кажан» пры Дрэбскім СДК.
Выдаецца на правах рукапісу. Надрукавана на ксераксе. Наклад 299 ас.
Пры перадрукоўцы матэрыялаў спасылка на «КРЫЛЫ» абавязкова.

**Ініцыятыўная група:**
*Грыневіч Дзіма*
*Грыневіч Саша*
*Пройдзін Александр*
*Апановіч Віталь*
*Воля Калюціч і іншыя.*



**Рэдактар:** В.М. Каратыш

**Адрас:** *225661* Дрэбскі СДК, в. Дрэбск, Лунінецкі р-н.
**тэл.** *(8-01647) 72277* (звяртайцеся да дырэктара СДК)